БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ СЕЛЬСКАЙ І ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

ТОМ XLIII ЦЭНТРАЛЬНАЯ БУЛЬБЯНАЯ СТАНЦЫЯ ВЫП. 4

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ БУЛЬБЯНАЯ СТАНЦЫЯ

ДА 1-АЙ УСЕБЕЛАРУСКАЙ ВЫСТАЎКІ СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК 1930

БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ СЕЛЬСКАЙ І ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XLIII. ЦЭНТРАЛЬНАЯ БУЛЬБЯНАЯ СТАНЦЫЯ Вып. 4



# ЦЭНТРАЛЬНАЯ БУЛЬБЯНАЯ СТАНЦЫЯ

## ДА 1-ай УСЕБЕЛАРУСКАЙ ВЫСТАЎКІ СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

## ЗЬМЕСТ





Заказ № 1002. 5.000 экз. (1 арк.) Галоўлітбел № 2680.

Друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва

Бульба для БССР мае выключна вялікае значэньне. Тады, як у РСФСР плошча пад бульбай складае толькі 4 проц. ад усёй засеўнай плошчы, у Беларусі гэты процант даходзіць да 12,4, прычым гэта лічба шпарка і няўпынна расьце. Паводле пяцігадовага пляну сярэдні процант плошчы пад бульбай у Беларусі да 1932 г. павінен быць даведзен да 16,3. Трэба адзначыць, што па саўгасах паказаныя лічбы ўжо цяпер перавышаны,—плошча пад бульбай складае 18,5 проц.

Зразумела, што на пытаньне культуры бульбы ў БССР павінна быць зьвернута асаблівая ўвага. Для вывучэньня гэтых пытаньняў у 1928 годзе была заснавана Цэнтральная бульбяная станцыя, якая зьяўляецца аднэй з устаноў БНДІ, а цяпер уваходзіць таксама і ў склад Усесаюзнай с.-г. акадэміі ў якасьці зональнай бульбянай станцыі.

Станцыя знаходзіцца ў 2 *км* ад Менску ў саўгасе „Вялікая Сьляпянка“ (пашт. адрас: Менск, пашт. скрынка 11). Агульная зямельная плошча складае 310 *га*, пад сэлекцыйнай бульбай у 1930 г. занята каля 20 *га* і рэпродукцыяй 40 *га*.

Паводле пэрспэктыўна-пяцігадовага пляну работа Цэнтральнай бульбянай станцыі павінна быць паказана наступнымі аддзеламі:

1) Аддзел экономікі (вывучэньне значэньня бульбаводзтва для соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі БССР і экономічная ацэнка тэхнічных спосабаў культуры бульбы).

2) Аддзел сэлекцыі (вывучэньне і вывядзеньне сартоў).

3) Аддзел паляводзтва (адшуканьне найлепшых спосабаў культуры бульбы).

4) Аддзел фітопатолёгіі (вывучэньне хвароб бульбы і спосабаў змаганьня з імі).

5) Аддзел фізыолёгіі (вывучэньне жыцьцёвых працэсаў бульбянай расьліны ў сувязі з пытаньнем яе культуры).

6) Аддзел анатоміі і цытолёгіі (вывучэньне мікроскопічнай пабудовы тканак і каморак бульбянай расьліны).

7) Аддзел тэхнолёгіі (вывучэньне пытаньня перапрацоўкі бульбы).

8) Гаспадарчы аддзел.

У сучасны момант найбольш разгорнуты работы ў аддзелах сэлекцыі, фітопатолёгіі і анатоміі, таксама пачаліся работы па фізыолёгіі.

## АДДЗЕЛ СЭЛЕКЦЫІ.

Сэлекцыйная работа ЦБСт. мае сваёй канчатковай мэтай падабраць асортымэнт зусім здаровых сартоў бульбы—сталовых, кармовых і заводзкіх, якія-б давалі ва ўмовах БССР найбольшую і найлепшую продукцыю, размножыць гэтыя сарты і замяніць імі мясцовую, нячыстасортную і малапродукцыйную і часта хворую бульбу.

Адпаведна гэтым мэтам сэлекцыйная работа падзяляецца на наступныя галоўныя этапы:

1) Збор і вывучэньне існуючых сартоў бульбы замежных і мясцовых.

2) Вывядзеньне новых сартоў.

3) Апрабаваньне сабраных і выведзеных сартоў.

4) Размножаньне іх.

## 1. Збор і вывучэньне існуючых сартоў бульбы.

Існуючыя сарты бульбы ў большасьці выпадкаў вывезены з-за межаў. Там гэта работа ідзе ўжо даўно і агульны лік выведзеных сартоў дасягае некалькі тысяч. ЦБСт. ставіць сабе задачай сабраць па магчымасьці больш поўную колекцыю замежных сартоў. Гэта задача палягчаецца тым, што за апошні час радам сэлекцыйных установ СССР былі набыты вялікія колекцыі сартоў бульбы з Заходняй Эўропы і Амэрыкі і ЦБСт. магла скарыстаць рэпродукцыі гэтых замежных колекцый. Колекцыі, якія былі атрыманы ў 1929 годзе, складалі „асноўную“ колекцыю ЦБСт. Апроч гэтага, у 1930 г. было атрымана яшчэ 6 колекцый ад розных асоб і ўстаноў [1]). Агульны лік колекцыйных нумароў у 1930 г. роўны 844, аднак лік розных сартоў у гэтых колекцыях значна меншы, бо шмат якія сарты былі атрыманы ў розны час і пад рознымі нумарамі, а іншы раз і пад рознымі назвамі. Дзеля таго, на працягу лета на колекцыйных школках робіцца вялікая работа апісаньня сартоў і параўнаньня іх адзін з адным. З групы аднолькавых (ідэнтычных) сартоў для далейшага выпрабаваньня і размножаньня бяруцца толькі найбольш здаровыя сарты.

Апрача вывучэньня замежных колекцый ЦБСт. робіць збор і вывучэньне мясцовай бульбы. Мясцовая беларуская бульба, г. зн. тая беспародзістая бульба, якая пакуль-што займае амаль усю плошчу бульбянага кліну БССР, па сутнасьці складаецца з тых самых замежных сартоў, якія толькі страцілі сваю сартовую назву і зьмешаны адзін з другім. Большасьць гэтых сартоў вельмі даўнага паходжаньня, дае невялікую ці дрэнную паводле

[1]) Апроч таго ад Усесаюзнага інстытуту прыкладнай Ботанікі атрымана колекцыя дзікіх сваякоў бульбы і каля 1000 паўднёва-амэрыканскіх тамтэйшых сартоў, якія хоць і ня маюць непасрэднага практычнага значэньня, але дакляруюць даць шмат чаго каштоўнага пры скрыжаваньні.

якасьці продукцыю, напрыклад, Маршчыністы, Бовінія і інш. Але, з другога боку, у мясцовай бульбе сустракаюцца таксама і сарты вельмі ўраджайныя і пекныя паводле якасьці, як Вольтман, Сілезія і інш. Некаторыя з гэтых каштоўных сартоў, як, напрыклад, Пірагі[1]), у замежных колекцыях зусім ня знойдзены і сустракаюцца толькі сярод мясцовай бульбы.

З мэтай вывучэньня сартовага складу БССР і вылучэньня з мясцовай бульбы лепшых сартоў для апрабаваньня і размножаньня, ЦБСт. праз мясцовы агрaпэрсонал зьбірае ўзоры з саўгасаў, колгасаў і ад асобных сялян. У 1930 г. ЦБСт. атрымала 161 узор з агульнай колькасьцю 18.000 бульбін. Мясцовыя сарты праз усё лета падрабязна вывучаюцца. На падставе морфолёгічных (знадворных) адзнак бульбоўніку і бульбін вызначаюцца ўсе асобныя сарты, якія ўваходзяць у кожны ўзор, гэта дае магчымасьць выявіць раёны з добрай паводле якасьці і больш ці менш чыстасартовай і здаровай бульбай. Гэтыя раёны робяцца ўжо дастаўнікамі насеньня бульбы для суседніх месц. З другога боку, выяўляюцца і раёны, асабліва ненадзейныя паводле якасьці бульбы, якую там садзяць. У гэтых раёнах у першую чаргу павінна быць зроблена абнаўленьне насеннага матэрыялу.

Прадстаўнікі ўсіх сартоў, якія сустракаюцца ў БССР, высаджваюцца ў асобную школку, якая носіць назву „мясцовай колекцыі“. Шмат якія з гэтых сартоў ня маюць ідэнтычных (адназначных) форм сярод замежных колекцый і гэтыя сарты, як і замежныя, ідуць на сортаапрабаваньне для вывучэньня іх гаспадарчых якасьцяй.

Апроч сваёй асноўнай мэты—служыць матэрыялам для апрабаваньня—замежныя і мясцовыя колекцыі служаць і для вывучэньня пытаньняў сыстэматыкі сартоў бульбы. Разьвязаньне гэтых пы-

[1]) Упяршыню выяўлены спэцыялістым ЦБСт. А. Дзямідовічам.

таньняў дае магчымасьць кожнаму, нават таму, хто толькі пачынае, разьбірацца ў масе існуючых сартоў і, кіруючыся іх знадворнымі адзнакамі, вызначыць ідэнтычнасьць і чыстату сорту пры апробацыях, пазнаваць і акрэсьліваць сарты ў зьмешаных засевах [1]).

## 2. Вывядзеньне новых сартоў бульбы.

Як толькі што было паказана, існуючыя сарты бульбы ў большасьці выпадкаў паходзяць з-за межаў, а гэта азначае, што яны выведзены для глебавых, кліматычных і экономічных умоў, якія адрозьніваюцца ад нашых. Зразумела, што няма сэнсу абмяжоўвацца разьвядзеньнем толькі замежных сартоў, трэба ўзяцца таксама і за вывядзеньне орыгінальных беларускіх сартоў, спэцыяльна прыстасаваных да нашых умоў.

### а) Вывядзеньне новых сартоў і насеньня.

Для таго, каб атрымаць новы сорт бульбы, у якой-бы злучаліся патрэбныя нам якасьці, сэлекцыянэры ўжываюць скрыжаваньне. У атрыманым ад скрыжаваньня кожным асобным зярняці, значыцца і ў расьліне, якая вырасьце з яго, будуць у розным выглядзе прадстаўлены комбінацыі розных знадворных і ўнутраных адзнак бацькоўскіх сартоў. Пры гэтым могуць зьявіцца і адзнакі, якія былі ў бацькоўскіх сартох у скрытым становішчы. Напрыклад, пры скрыжаваньні сінябульбянага сорту з чырвонабульбяным, частка сеянцаў (расьлін, якія выраслі з насеньня) будзе мець сінія бульбіны, частка—чырвоныя, а частка белыя. Скрыжоўваючы позьнясьпелы ўраджайны з скорасьпелым малаўраджайным, мы можам атрымаць і ўраджайныя і неўраджайныя сеянцы з самай рознай скорасьпеласьцю, прычым некаторыя з іх могуць паводле гэтых сваіх гаспадарчых адзнак

[1]) ЦБСт. ужо здан у друк і хутка выйдзе „Вызначнік сартоў бульбы", складзены Н. А. Лапаціным. У гэты вызначнік увайшло 75 сартоў, з ліку найбольш пашыраных у СССР.

перавышаць бацькоўскія сарты. Нават калі ўзяць насеньне ад самаапылкаваньня (г. зн. насеньне, якое атрымалася ад апылкаваньня кветкі яе-ж уласным пылком), дык гэтае насеньне таксама дасьць „расшчапленьне“, г. зн. атрыманыя сеянцы будуць адрозьнівацца ад бацькоўскага сорту і адзін ад аднаго як паводле знадворных, таксама і паводле ўнутраных адзнак. Гэта тлумачыцца тым, што сорт бульбы мае ў сябе шмат адзнак, якія пры размножаньні бульбінамі знаходзяцца ў схаваным становішчы, але выяўляюцца пры размножаньні зярнятамі. Наогул пры размножаньні бульбы зярнятамі, кожнае зярнятка дае пачатак новым сартом.

Вось, у агульных рысах, работа па выяўленьні новых сартоў з насеньня. Галоўная яе цяжкасьць у тым, што патрэбныя комбінацыі гаспадарчых якасьцяй у іх найвышэйшым разьвіцьці атрымоўваюцца ня часта. Таму, каб атрымаць гэтыя пажаданыя комбінацыі, трэба выводзіць многа тысяч сеянцаў. ЦБСт. у 1930 г. высеяла 12.000 сеянцаў, але паводле пяцігадовага пляну гэтыя лічбы павінны быць павялічаны да 20.000.

Сеянцы першага году, пры іх належнай культуры, ужо ў першы год даюць амаль што нормальны ўраджай бульбін [1]), могуць быць ацэнены па іх гаспадарчых якасьцях і калі трэба бракавацца. Ураджай ад незабракаваных—лепшых—сеянцаў высаджваецца на будучы год па 10 бульбін з кожнага сеянцу. Гэтыя сеянцы падпадаюць паўторнай бракоўцы і пасьля гэтага на трэцім годзе жыцьця яны ідуць, як і замежныя сарты, на агульнае сартаапрабаваньне.

Атрыманьне ў спадку бацькоўскіх адзнак і комбінаваньне іх у дачковых расьлін—сеянцаў—падпарадкаваны цьвёрдым законам, вывучэньне якіх зьяўляецца вельмі цікавым з боку практычнага і тэоры-

---

[1]) У 1929 г. ураджай бульбін лепшых кустоў сеянцаў даходзіў да 1,5 кілёграм на гняздо.

тычнага. ЦБСт. вывучае гэтыя законы, робіць „расшчапленьне“ як знадворных адзнак (афарбоўка бульбін і кветак, форма лісьця), таксама і ўнутраных (ураджайнасьць, процант крухмалу і інш.).

**б) Атрыманьне новых сартоў шляхам пупешкавых мутацый.**

Як правіла, кожны сорт—калі толькі ён застаецца здаровым—захоўвае пры размножаньні бульбінамі ўсе свае адзнакі бяз зьмены. Але часам на асобных кустох могуць зьяўляцца атожылкі, якія больш ці менш выразна адрозьніваюцца ад іншых, прычым гэтыя адзнакі захоўваюцца пры далейшым размножаньні бульбінамі і даюць, такім чынам, пачатак новым сартом. Вось, напрыклад, на кусьце сорту „Чырвонавочка“ сярод нормальных белых з чырвонымі вочкамі бульбін былі знойдзены сінія, з белымі плямамі, бульбіны, ад бульбіны ўтварыўся новы сінябульбінавы сорт „Чыгунка“. Гэтыя зьмены, якія атрымліваюцца ў спадчыне, называюцца пупешкавымі мутацыямі, а сарты, якія ўзьніклі такім чынам, называюцца мутантамі.

Пупешкавыя мутацыі могуць зьмяняць у самых рознастайных кірунках афарбоўку і форму бульбін, кветак і лісьця, а таксама і гаспадарчыя адзнакі. Апошнія ў большасьці выпадкаў зьмяняюцца ў дрэнны бок у параўнаньні з нормальным сортам, але бывае, што можа атрымацца ўхіл і ў лепшы бок. Задача ЦБСт.—сабраць па магчымасьці больш поўную колекцыю пупешкавых мутантаў (і цяпер іх ёсьць каля 150), выдзеліць з іх усё практычна каштоўнае і высьветліць законамернасьць мутацыйных процэсаў.

Блізкія адносіны да пупешкавых мутацый мае індывідуальны адбор. Гэта работа складаецца з таго, што ў межах якога-небудзь аднаго сорту падкрэсьліваюцца лепшыя паводле гаспадарчых якасьцяй кусты і выкопваюцца паасобку і пад асобнымі нумарамі. На будучы год бульбіны кожнага адабранага нумару высаджваюцца для паўторнай ацэнкі. Калі

і на другі год той ці іншы нумар адзначаецца сваімі гаспадарчымі якасьцямі, гэтыя якасьці зьяўляюцца ў яго спадчынай, і такі нумар ідзе на трэці год для агульнага сортаапрабаваньня. Рэшта-ж нумароў — а такіх будзе большасьць—бракуюцца.

Індывідуальны адбор зводзіцца, такім чынам, да таго, каб злавіць пажаданыя спадчынныя зьмены (мутацыі) у гаспадарчых якасьцях сорту. Апроч гэтага, ён мае вялізнае значэньне і для аздараўленьня сартоў. Бульба надта церпіць ад хвароб звырадненьня. Гэтыя хваробы зьмяншаюць ураджай сорту, перадаюцца праз бульбіны, але не заўсёды могуць адрозьнівацца па знадворным выглядзе расьліны. Адбіраючы толькі больш продукцыйныя расьліны, мы гэтым самым адбіраем, бязумоўна, здаровы матэрыял і павялічваем ураджайнасьць сорту.

## 3. Апрабаваньне сартоў.

З папярэдняга відаць, што матэрыялам для апрабаваньня сартоў зьяўляецца: 1) сэлекцыйныя сарты з замежных колекцый, 2) сарты мясцовай колекцыі (у большасьці выпадкаў таксама замежнага паходжаньня), 3) сеянцы, якія выведзены з насеньня, 4) пупешкавыя мутацыі і продукты індывідуальнага адбору. Усе гэтыя сарты прапускаюцца паступова на працягу трох гадоў праз тры сортаапрабаваньні: 1) папярэдняе, 2) выпрабаваньне на хуткасьпеласьць і 3) асноўнае; у 1930 годзе высаджана на першым 343 сарты, на другім—101 і на трэцім—113 сартоў.

Пры кожным сортаапрабаваньні ўлічваецца агульны ўраджай бульбін, процант крухмалу, буйнасьць бульбіны ды ўстойлівасьць супроць хвароб.

### а) Папярэдняе сортаапрабаваньне (поле I).

Мэта гэтага сортаапрабаваньня—даць папярэднюю грубую ацэнку сартоў і адначасова павялічыць іх да


У МЕНСК ← ДАРОГА → У СЯДЗІБУ ЦЭНТРАЛЬНАЙ БУЛЬБЯНОЙ СТАНЦЫІ
АБАРОННАЯ ПАЛАСА
ПЛЯН
СЭЛЕКЦЫЙНЫХ ГАДАВАЛЬНІКАЎ
ЦЭНТРАЛЬН. БУЛЬБЯНОЙ СТАНЦЫІ
ПОЛЕ РАЗМНОЖВАНЬНЯ
УЗОРЫ МЯСЦОВАЕ БУЛЬБЫ, САБРАНЫЯ У 1929 г.
КОЛЕКЦЫІ
ПАЎДНЁВА-АМЭРЫКАНСКАЯ БУЛЬБА
ДЗІКАЯ БУЛЬБА
МУТАНТЫ
ПОЛЕ РАЗМНОЖВАНЬНЯ
МЭТОДЫКА СОРТААПРАБАВАНЬНЯ
АСНОЎНАЕ СОРТААПРАБАВАНЬНЕ
[ПОЛЕ IIIА]
ПАПЯРЭДНЯЕ СОРТААПРАБАВАНЬНЕ
[ПОЛЕ I]
СОРТААПРАБАВАНЬНЕ НА ХУТКАСЬПЕЛАСЬЦЬ
[ПОЛЕ II]
УЗОРЫ МЯСЦОВ. БУЛЬБЫ, САБРАН. ЗА МІНУЛ. ГАДЫ
СЕЯНЦЫ 2-ГА ГОДУ ЦЭНТР. БУЛЬБ. СТАН.
СЕЯНЦЫ 2 ГА ГОДУ АД ПРОФ МАЛЮШЫЦКАГА
ПОЛЕ РАЗМНОЖВАНЬНЯ
СЕЯНЦЫ I-ГА ГОДУ
НІЗІНА, ЗАСЕЯНАЯ ВІКАЙ
ГЕНЭТЫЧНЫ ГАДАВАЛЬНІК
У МЕНСК ← ДАРОГА → У СЯДЗІБУ ЦЭНТРАЛЬНАЙ БУЛЬБЯНОЙ СТАНЦЫІ

колькасьці, якая неабходна для больш поўнай ацэнкі. З папярэдняга сортаапрабаваньня сарты ідуць на выпрабаваньне на хуткасьпеласьць.

**б) Сортаапрабаваньне на хуткасьпеласьць (поле II).**

У гэтай школцы кожныя 10 дзён з моманту ўтварэньня бульбін выкапваецца па 25 кустоў і ўлічваецца іх ураджайнасьць і процант крухмалу. Гэтым шляхам вызначаецца ня толькі агульная продукцыйнасьць сорту, але і яго адносная хуткасьпеласьць, а гэта вельмі важна для правільнай ацэнкі сартоў, асабліва сталовых. Усе сарты, якія паказалі малую продукцыйнасьць і ня выявіліся па хуткасьпеласьці, бракуюцца, а рэшта пакідаецца на наступны год на агульнае сортаапрабаваньне.

**в) Асноўнае сортаапрабаваньне (поле III).**

Гэтае апрабаваньне праводзіцца паводле схэмы, якая ўжываецца большасьцю бульбяных станцый СССР [1]) (шасьціразовая паўторнасьць па 25 улікавых кустоў на дзялянцы). На падставе ўраджайных даных і ацэнкі здароўя зноў робіцца бракоўка сартоў.

Паводле даных сортаапрабаваньняў ЦБСт. і сортасеткі, лепшымі сартамі аказаліся: з раньніх—Раньняя ружа і Бовэ (для лёгкіх глеб), Эпікур (для глеб больш зьвязаных), а з сярэдніх і пазьнейшых сартоў—Вольтман, Дэодора, Кругер, Сілезія і Сьвіцязь [2]). Тыя сарты бульбы, якія на працягу некалькіх гадоў даюць вялікі і добры паводле якасьці ўраджай, ідуць на IV поле размножаньня ў гаспадарчых засевах Станцыі. Ураджай з гэтага поля (I рэпродукцыя)

---

[1]) Гэта схэма, ня гледзячы на сваю шырокую популярнасьць, усё-ж зьяўляецца досыць угрунтаванай і распрацаванай. Дзеля таго ЦБСт. вядзе работу паводле мэтодыкі сортаапрабаваньня, іменна высьвятляе оптымальны лік адлегласьці суседніх кустоў адзін ад аднаго і ўплыў вымерлых кустоў на кусты, што стаяць побач, ды інш.

[2]) Вынікі работ па сортаапрабаваньні бульбы ў БССР выкладзены ў кніжцы М. Максімовіч „Культура бульбы“, там-жа паказаны вынікі работ нашых дасьледчых устаноў па вывучэньні спосабаў тэхнікі культуры бульбы.

ідзе пад загад Дзяржсортфонду для размножаньня, (ІІ рэпродукцыя) у саўгасы і колгасы і для далейшага разьмеркаваньня сартовай бульбы сярод насельніцтва. Паводле пяцігадовага пляну ўвесь бульбяны клін БССР да канца пяцігодкі будзе засаджаны сартовай бульбай.

## АДДЗЕЛ ФІТОПАТОЛЁГІІ.

Пры культуры бульбы вялізнае значэньне мае яе здароўе, бо на бульбу нападаюць шмат якія хваробы, што моцна зьніжаюць колькасьць і якасьць ураджаю, ці выклікаюць яе псаваньне пры хаваньні. Паводле агульнага падліку, у БССР штогод гіне 1 млн. тон бульбы, г. зн. у два разы больш, чым пераапрацоўваецца на заводзе. Таму работа фітопатолёгічнага аддзелу, які вывучае хваробы бульбы і спосабы змаганьня з імі, мае вельмі важнае значэньне.

Усе школкі ЦБСт. знаходзяцца пад фітопатолёгічным контролем і для кожнага сорту вызначаецца ступень яго здароўя. Гэтыя адзнакі граюць вельмі вялікую ролю пры агульнай ацэнцы і бракоўцы сартоў. Апроч гэтага, пад наглядам фітопатолёгаў у працягу лета робіцца ачыстка ўсіх палёў ад кустоў хворых на тыя ці іншыя хваробы, якія могуць перадавацца праз бульбіны (хваробы выраджэньня, чорная ножка і інш.).

Апроч таго, фітопатолёгічны аддзел ставіць спэцыяльныя досьледы для высьвятленьня спосабаў змаганьня з найбольш важнымі хваробамі. У 1930 г. робяцца досьледы з вывучэньнем уплыву: 1) Тэрмінаў скошваньня бульбоўніку і апырскваньня — на захворваньне фітофторай; 2) рэзаньня бульбы — на захворваньне чорнай ножкай; 3) пратручваньня формалінай—на захворваньне фузорыумам; 4) тэрмінаў баранаваньня—на захворваньне рызоктоніяй.

Апошні досьлед рабіўся таксама і ў 1929 годзе. Ён паказаў наступнае: у той час, як небаранаванае

поле дало 5 проц. няўсходных ад рызоктоніі кустоў, поле, пабаранаванае на 10 і 20 днёў пасьля пасадкі, дало адпаведна толькі 1,5 проц. і 2 проц. няўсходнасьці. Больш позьнія тэрміны баранаваньня не адбіліся на ўсходнасьці бульбін.

## АДДЗЕЛ АНАТОМІІ І ЦЫТОЛЁГІІ.

Шмат якія пытаньні фітопатолёгіі, тэхнолёгіі, генэтыкі і інш. могуць быць вырашаны толькі пры дапамозе мікроскопічнага вывучэньня тканак бульбянай расьліны. Аддзел анатоміі бярэ на сябе гэту задачу. Асобны інтарэс для практыкі мае вывучэньне велічыні крухмальных зярнят у асобных сартоў, бо ў залежнасьці ад велічыні гэтых зярнят падвялічваецца выхад і якасьць крухмалу. Паводле папярэдніх досьледаў, найбольш буйныя зярняты маюць сорт Вольтмана. Вынікі досьледаў паказаны ў рабоце Дановіча і Крынкінай.

## АДДЗЕЛ ФІЗЫОЛЁГІІ.

Аддзел фізыолёгіі мае сваёй мэтай вывучэньне жыцьцёвых процэсаў бульбяных расьлін у сувязі з чыньнікам узросту (кліматычныя, глебавыя ўмовы) і спосабамі культуры.

Гэты аддзел толькі пачынае сваю работу і сёлета вывучае ўплыў рознай ступені вільготнасьці глебы ў розныя пэрыяды разьвіцьця расьліны на ход яе жыцьцёвых процэсаў і канчатковы вынік узросту — ураджай.

У далейшым мяркуецца больш падрабязна вывучаць водны рэжым бульбы, пытаньні, зьвязаныя з перазімоўкай бульбін і падрыхтоўкай іх да пасадкі (зьмены ў бульбінах пры ляжаньні і правяльваньне перад пасадкай) і рад іншых.

---

Далейшае разьвіцьцё работ ЦБСт. будзе ісьці па лініі разьвязаньня пастаўленых задач, далейшага

пашырэньня работ існуючых аддзелаў, організацыі новых аддзелаў, напр., аддзел паляводзтва, хэмічнай тэхнолёгіі і ўтварэньня адпаведных навукова-дасьледчых абставін.

## ГАСПАДАРЧЫ АДДЗЕЛ.

Асноўнай задачай гэтага аддзелу зьяўляецца вытворчасьць першай рэпродукцыі сэлекцыйнай сартовай бульбы, якая выпускаецца аддзелам сэлекцыі, і перадача гэтага матэрыялу насеннагадоўчым організацыям. Апроч гэтага, гаспадарчы аддзел абслугоўвае ўсю навуковую работу станцыі людзкой і цягавай сілай, угнаеньнем, інвэнтаром, будынкамі і інш. Гаспадарка станцыі мае ўсёй зямлі 310,5 *га*, з якой 216 *га* ворнай (у тым ліку пад навуковымі засевамі каля 35 *га*), 15 *га* гароду і 6,5 саду. Рэшта зямлі пад сядзібай і ня ўжыткоўная. Зямельная плошча падзяляецца на 2 вучасткі: прысядзібны клін каля 217,5 *га* і адлеглы 43,5 *га*, паводле прынятага 8-польнага севазвароту з наступным чаргаваньнем культур: 1) папар заняты, 2) жыта, 3) бульба, 4) авёс і канюшына, 5) канюшына I году, 6) канюшына II году, 7) канюшына III году і 8) бульба, мяркуецца 6 палёў разьмясьціць на прысядзібным кліне і 2 полі на асобным вучастку. (Гэты севазварот пакуль што ажыцьцёўлены толькі на прысядзібным кліне).

Статак кароў, які складаецца з 87 галоў, мяркуецца павялічыць у хуткім часе да 100 галоў з мэтай больш поўнага забесьпячэньня навуковых і гаспадарчых засеваў сваім гноем.

Кармовае пытаньне ў гаспадарцы Станцыі разьвязваецца галоўным чынам за кошт параўнаўча вялікіх засеваў кораньплодаў і сіласаваньня кармоў (бурачнага і бульбянога бацьвіньня).

Цягавая сіла станцыі, якая складаецца з 30 коняй і трактару, цалкам забясьпечвае патрэбы навуковай

станцыі і гаспадаркі. Машынамі, інвэнтаром гаспадарка пакуль што ня зусім забясьпечана, асабліва складанымі машынамі, якія маюць сувязь з культурай бульбы. Робяцца захады каб іх набыць.

Адчуваецца недахоп будынкаў як гаспадарчых, так і жыльлёвых, гэты недахоп мяркуецца ліквідаваць у бліжэйшыя гады шляхам форсаванага будаўніцтва.

Зараз праводзіцца на станцыю электрычная энэргія і ў хуткім часе будзе электрыфікаваны рад працэсаў навуковых і гаспадарчых прац.

---

## СЬПІС.

### надрукаваных і зданых у друк прац ЦБСт.

Дзямідовіч—Бульба—БДВ—1929 г.

Лапацін—Вызначнік сартоў бульбы—друкуецца.

Максімовіч—Культура бульбы—БДВ—1930 г.

Дановіч і Крынкіна—Параўнальная гістолёгія вэгетацыйных органаў некаторых раньніх, сярэдніх і позных гатункаў бульбы—БДВ—1930 г.

Дзямідовіч—Скарыстаньне бульбоўніка на корм—БДВ—1930 г.

Дзямідовіч. Бульба, яе гатункі і ўраджай—БДВ—1928 г.

---

